**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№36(648)**
**6 верасня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**





**Сімвалічна, што ў Дзень пісьменства Алею славутых землякоў на пл. 17 Верасня, якую пачынае Іосіф Корсак, ваявода (губернатар) Мсціслаўскі, стараста Дзісенскі, пасол на Сойм Рэчы Паспалітай, мэр мястэчка Глыбокае, фундатар трох глыбоцкіх храмаў, адкрыў старшыня (губернатар) Віцебскага АВК Аляксандр Косінец. Ён зрабіў досыць працяглую прамову і без усялякіх паперак, на добрай беларускай мове.** Працяг тэмы на стар.4. *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Ушанавалі памяць славутага пісьменніка-земляка

**Уладзімір Скрабатун**

Наш славуты горад даў Беларусісветупрадстаўнікоў многіх культур: беларускай, яўрэйскай, польскай і рускай. Сярод апошніх – Лявонцій Іосіфавіч Ракоўскі, рускі савецкі пісьменнік. У гонар яго памяці на Дзень беларускага пісьменства ўсталяваная мемарыяльная шыльда на будынку раённай бібліятэкі

Ён аўтар такіх твораў на рускай мове:

«Часы» (1926),

«Постояльцы» (1926),

«Зелёная Америка» (сборник повестей и рассказов) (1927),

«Сивопляс» (сборник повестей и рассказов) (1928),

«Четвертая жена» (1930),

«Блудный бес» (1931),

«Изумленный капитан» (1936),

«Алёнка» (1938) (повесть),

«Генералиссимус Суворов» (1941—1947),

«Новые похождения бравого солдата Швейка» (1941),

«Константин Заслонов» (1949) (повесть),

«Адмирал Ушаков» (1952),

«Кутузов» (1960),

«Жизнь наперекор. Повесть о Марлинском»,

«Михаил Тухачевский» (1967) (повесть),

«Фронтовая азбука. Рассказы о советских полководцах» (1968).

Для нас, глыбачанаў, безумоўна, ёсць самай неацэннай кнігай «Зялёная Амерыка», зборнік аповесцяў і апавяданняў пра жыццё мястэчка Глыбокае пачатку XX стагоддзя ва ўсіх яго дробязях. А дзе тая «Зялёная Амерыка» ў Глыбокім? Ёсць і сёння! Гэта старыя яўрэйскія могілкі ля рынка, якія некалі патаналі ў зялёным сасновым бары. І кожны глыбоцкі яўрэй напрыканцы свайго жыцця казаў: «Прыйшоў час збірацца ў "Зялёную Амерыку"!».



**Адкрыццё мемарыяльнай шыльды, прысвечанай пісьменніку Лявонцію Ракоўскаму. Злева – А.В. Морхат, старшыня Глыбоцкага РВК. Прамаўляе Тамара Пятроўна Шылёнак, настаўнік беларускай мовы і літаратуры, не без удзелу якой створаны літаратурны музей у Глыбоцкай СШ №2.**

**Докшыцкі раён**

# Куточкам мілым даражыць

■ Чэслаў Якубовіч

**Такія палымяныя высечаныя словы навечна з’явіліся днямі на мемарыяльным камені з памятным знакам, калі гарпасёлак Бягомль Докшыцкага раёна ўрачыста адзначыў 430-ю гадавіну свайго заснавання.**

Гэта мястэчка яшчэ перад вайной за савецкім часам стала тагачасным прыгранічным райцэнтрам на існаваўшай тады мяжы з Польшчай. У адрозненне ад шэрагу падобных населеных пунктаў, якія перажываюць зараз пэўны перыяд заняпаду, бягомльцам выпаў больш шчаслівы лёс. У сілу свайго выгаднага геаграфічнага размяшчэння на бойкай трасе з дарогамі на Мінск, Віцебск, Барысаў і Докшыцы сюды кіраўніцтва вобласці ўклала грошы, каб адрадзіць прамысловасць і абнавіць сацыяльную сферу. Каб быў занятак для людзей, запрацаваў завод "Ветразь", стаў нарошчваць аб’ёмы вытворчасці мясцовы лясгас. Апошнім часам тут адкрылі абноўленую сучасную аўтастанцыю, лазню, шэраг аб’ектаў прыдарожнага сервісу. Вуліцы і гадлёвыя кропкі пасёлка памаладзелі і папрыгажэлі, правялі рамонт жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Падчас урачыстасцей ля храма праваслаўны святар айцец Валерый асвяціў памятнае месца, правёў Богаслужэнне за сваіх землякоў. На свята прыехала шмат ганаровых гасцей, сярод якіх былі спікер парламента У. Андрэйчанка, новы міністр МУС Беларусі І. Шуневіч і старшыня гандлёва-эканамічнай місіі Татарстана ў РБ І. Гафіатулін. Да позняга вечара для бягомльцаў на іх дзень гучала музыка нават ваеннага духавога аркестра, а завяршыліся ўрачыстасці святочным фейерверкам.

**Пастаўскі раён**

# Моладзь не падвяла

■ Кастусь Александровіч

**Як і раней, і сёлета лепшай у Пастаўскім раёне па ўраджайнасці збожжа стала спецыялізаваная несенневодчая гаспадарка "Хаціла-агра", якая першай завяршыла жніво і атрымала з кожнага гектара амаль па 52 цэнтнеры з гектара.**

Праўда, каб скасіць і абмалаціць усе 1600 гектараў збажыны, спатрэбіўся роўна месяц напружанай працы з-за праходзіўшых дажджоў і шматлікіх палеглых ад урагану ўчасткаў. У гэтай прыгараднай гаспадарцы на жніве працавалі 10 камбайнаў, стаўку зрабілі на маладых работнікаў, камбайнераў сярэдняга пакалення і не памыліліся. Маладзёжны экіпаж адсюль на чале з Валерыем Ярашэвічам выйшаў у лідары ўборкі і першым на Пастаўшчыне намалаціў тысячу тон збожжа. Увогуле ў раёне не рабілі "штучных герояў" жніва дзеля рэкордных намалотаў, выдзяляючы для працы асобных передавікоў толькі найбольш ураджайныя ўчасткі. Тут таксама на хлебнай ніве ўсе працавалі ў аднолькавых умовах з раніцы і да апоўначы. Асабліва не падводзіла і тэхніка, хоць Валерый толькі летась атрымаў новы камбайн айчыннай вытворчасці КЗС-1218 і ўжо прывык да гэтай машыны. Як прынята, з такім дасягненнем хлопцаў павіншавала ў полі кіраўніцтва раёна і ўручыла каштоўны падарунак – сучасны лічбавы тэлевізар, грашовыя прэміі і фірменныя футболкі з кепкамі. А ўжо праз дзень лік камбайнераў-тысячнікаў папоўніў у раёне яшчэ два экіпажы Дзмітрыя Кузняцова і Генадзя Антуха з гэтай гаспадаркі. Малады вадзіцель Віктар Хвядзевіч з іншага вядомага сельгаспрадпрыемства краю "Камайскі-агра" стаў сёлета лепшым на Віцебшчыне па адвозцы зерня.

**Шаркоўшчынскі раён**

# Дажываць век ... у школе

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам у нашай краіне колькасць насельніцтва пастаянна скарачаецца, толькі 10 тысяч першакласнікаў папоўнілі школы вобласці.**

Адначасова на Віцебшчыне, дзе дэмаграфічная сітуацыя адна з самых складаных, расце штогод колькасць пажылых, адзінокіх людзей. Каб ім дапамагчы на схіле жыцця, паўсюдна ствараюць прытулкі ў гарадах, а вось у Шаркоўшчынскім раёне для такога цэнтра перадалі былую базавую школу ў вёсцы Дзікева. Як аказалася, атрымаўся самы ўдалы выбар, бо бабулі і дзядулі жывуць тут пасярод мілага ім асяроддзя не ў райцэнтры, а на ўлонні прыроды. Калі першую зіму зімавалі 12 нямоглых пенсіянераў, а вясной вярнуліся ў свае хаты, то зараз такой міграцыі ўжо няма, хоць пастаянных жыхароў прыбавілася ў 4 разы. У чарзе, каб трапіць сюды, стаяць яшчэ 20 старых з кіёчкамі ва ўзросце пад 80 і болей гадоў, у якіх няма родных і блізкіх для догляду. Людзям тут падабаецца і яны адчуваюць сябе зусім не адзінокімі. Нават скульптура ангела з’явілася на дагледжаным дворы акрамя мальнага пакою, куды рэгулярна прыязджаюць святары. Па просьбе старых для іх пабудавалі шыкоўную лазню, пасадзілі маладыя сад. Як і ў маладосці, могуць насельнікі прытулку пакорпацца ў агародзе, папрацаваць у цяпліцах, бо ўсё жыццё любілі працаваць.

# Лічба нумара

**2048** – столькі збожжаўборачных камбайнаў было задзейнічана толькі ў Віцебскай вобласці сёлета на ўборцы вырашчанага ўраджаю. У Прыдзвінні ў гэтым годзе ўвялі дадаткова ў севазварот яшчэ 200 тысяч гектараў закінутых і зарослых раней зямель, што дапамагло хлебаробам нашага рэгіёна яшчэ ў сярэдзіне жніўня пераадолець мільённы рубеж па намалотах збожжа, але на палях яшчэ заставаліся няўбранымі больш трэці палеткаў са збажынай. Аднак асабліва радавацца з такой нагоды не выпадае, бо нават на вышэйшым узроўні краіны зноў вымушаны былі прызнаць нізкую эфектыўнасць вырошчвання айчынных сельгаскультур.

Таму кіраўнік дзяржавы А. Лукашэнка спачатку правёў традыцыйную селектарную нараду, ад якіх раней публічна абяцаў навогул адмовіцца. Нязменны беларускі лідар невыпадкова правёў некалькі інспекцыйных паездак у шэраг абласцей, бо інакш у нас быццам кадры працаваць не могуць, маўляў, у чыноўнікаў на месцах хапае самазаспакоенасці і няма адказнага стаўлення да даручанай справы. Калі разабрацца, так яно ёсць на самой справе, бо ў краіне, асабліва ў сельскай гаспадарцы па-ранейшаму хапае безгаспадарчасці і вялізных прыпісак

Яшчэ падчас сёлетняга жніва па даручэнні кіраўніка Беларусі органы ўлады заняліся праверкамі пададзеных статыстычных дадзеных, а вінаватых чакала "самае суровае пакаранне". Акрамя гэтага сёлета толькі на Віцебшчыне гаспадаркі атрымалі апошнім часам больш 1500 новых высокапрадукцыйных камбайнаў, але і за месяц працы ў полі не змаглі справіцца з уборкай. Прычым спачатку жніва стаяла выдатнае сонечнае надвор’е, але ўборка зацягнулася і сталі відавочнымі іншыя хібы вядзення спраў у айчыннай сельскай гаспадарцы.

Узяць бы, да прыкладу, тую ж паўднёвую Гомельскую вобласць з яе спрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі і адпаведным патэнцыялам. У параўнанні з суседняй Брэсцкай вобласцю, палешукі пры аднолькавых пасяўных плошчах атрымалі намалочанага збожжа меней амаль на паўмільёна тон. Рэнтабельнасць вырошчвання самых спрыяльных азімых культур складае толькі 6 %. Паўсюдна па краіне сёлета ўраджайнасць збожжа была вышэй на 5,7 ц/га, чым у мінулым 2011 годзе, а вось на Гомельшчыне яна засталася такая, якая была летась – меней 30 цэнтнераў на круг.

Праўда, у пытаннях вырошчвання кукурузы і правядзення меліярацыі гэта вобласць дае прыклад астатнім рэгіёнам Беларусі. Адначасова вышэйшае кіраўніцтва краіны ўзмацняе ціск на сваіх падначаленых у пытаннях рэканструкцыі жывёлагадоўчых ферм, разлічваючы сур’ёзна зарабіць валюты ад продажу малака і мяса Сёлета толькі на Віцебшчыне ўсімі праўдамі і няпраўдамі дадручана правесці рэканструкцыю 228 кароўнікаў і пабудаваць да канца года 5 новых малочна-таварных ферм, на якіх ужо не будзе дапатопнага даення кароў вёдрамі.

Дарэчы, у гэтым пытанні, як паказала адна з апошніх паездак А. Лукашэнкі ў Калінкавіцкі раён Гомельшчыны, кадры АПК у сапраўдным замяшанні: яны не ведаюць, чаго ад іх патрабуюць, не разумеюць, якія ж павінны быць "самыя сучасныя тэхналогіі на фермах". Рыгоравіч перакананы, што каровы і нецелі выдатна сябе адчуваюць і на свежым паветры і пры марозе мінус 25 градусаў, як паказала карцінку айчыннае тэлебачанне. Па яго ных словах, не трэба заганяць рагуль у памяшканні з жалеза і бетону, а ўтрымліваць лепш статак на свежым паветры і зімой.

Вось будзе цікава, як у нас пойдуць справы далей, а пакуль у Беларусі вырашылі да 2015 года павялічыць пасевы сланечніку да 29 тысяч гектараў, каб поўнасцю забяспечыць патрэбнасці ў гэтым прадукце. У нас на Віцебшчыне тым часам загадваюць вырошчваць паўсюдна і вінаград, ягады, разводзіць пладовыя сады, увогуле сумаваць не выпадае. Адзінае, што пры ўсёй маштабнасці такіх планаў, прыходзіш у крамы і не разумееш, чаму ў магазінах суседняй Прыбалтыкі і Польшчы аналагічныя прадукты харчавання чамусьці танней у 1,5- 2 разы пры адчувальна вышэйшых заробках і пенсіях. Напярэдадзе чарговыя пампезныя "Дажынкі", гром фанфараў, якія пройдуць на фоне чарговага росту зноў цэн на хлеб і на прадукты…

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 06.09.12 | | | | Пятніца 07.09.12 | | | | Субота 08.09.12 | | | | Нядзеля 09.09.12 | | | | Пнд.10.09.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +11 | +15 | +11 | +7 | +9 | +12 | +11 | +10 | +11 | +16 | +10 | +9 | +11 | +16 | +14 | +13 | +14 | +23 |
| Ціск | 744 | 744 | 744 | 745 | 746 | 745 | 742 | 740 | 741 | 742 | 744 | 746 | 747 | 749 | 749 | 749 | 750 | 749 | 749 |
| Вільготнасць | 81 | 84 | 70 | 78 | 89 | 72 | 81 | 92 | 94 | 91 | 48 | 78 | 87 | 84 | 70 | 89 | 91 | 83 | 46 |
| Вецер м/сек | 4 З | 4 З | 6 З | 3 С-З | 3 С-З | 4 Ю-З | 8 Ю-З | 7 Ю-З | 4 З | 4 З | 7 С-З | 3 З | 3 З | 4 З | 7 З | 5 Ю-З | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 8 Ю-З |

## Дзень за днём

**Пасля атрыманых страт у памеры 2 млрд. долараў Расія спыніла пастаўкі ў Беларусь прамагоннага бензіну, а Следчы камітэт РФ пачаў расследванне лжэ-экспарту па сумніўных схемах з удзелам і расійскіх фірм. Колькасць свабодных вакансій для ўладкавання на працу ў РБ дасягнула 65 тысяч месц і ў 2,4 разы перавысіла наяўнасць цяпер зарэгістраваных беспрацоўных. Але нават у Мінску беларусы не жадаюць працаваць за малую зарплату. Сёлета адзець дзіця-школьніка да новага навучальнага года каштавала ад 700 тысяч да 4 млн. рублёў. Толькі 21 дзеючы дэпутат пераабіраецца ў новы склад парламента. З пачатку года ўжо 51 суайчыннік, што жахліва, быў забіты ў нашай краіне блізкімі і нават роднымі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** З улікам апошняга дыпламатычнага канфлікту паміж Рэспублікай Беларусь і Швецыяй Савет ЕС адклаў на кастрычнік рашэнне аб увядзенні дадатковых санкцый да афіцыйнага Мінска.

**Іарданія.** Кароль Абдула не выключыў, што ў выпадку падзення праўячага рэжыму Б. Асада Сірыя можа развяліцца і на яе ўзбярэжжы можа з'явіцца асобная дзяржава алавітаў.

**Саудаўская Аравія.** Арганізацыя ісламскага супрацоўніцтва прыпыніла членства Сірыі ў ёй, раней рэжым Б. Асада выключылі і з Лігі арабскіх дзяржаў за забойствы тысяч людзей.

**Швецыя.** Супрацоўнікі Studio Total катэгарычна абвергді прыналежнасць двух беларускіх грамадзян да палёту шведскага самалёта, які абвінавацію і арыштаваў КДБ Беларусі.

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама яшчэ на год прадоўжыў дзеянне закона аб абмежавальных санкцыях у гандлі з Беларуссю за "агрэсію яе ўлад у адносінах да грамадзянскіх асоб".

**Эквадор.** Урад краіны прадаставіў палітычны прытулак заснавальніку сайта WikiLeaks Джуліану Асанжу, але Англія зрабіла яго закладнікам эквадорскага пасольства ў Лондане

**Грузія.** Перад парламенцкімі выбарамі стартавала прэзідэнцкая праграма "Усмешлівая Грузія" па бясплатным лячэнні і пратэзіраванні зубоў сем'яў пажылых людзей.

**Польшча.** У Каралеўскім замку Варшавы патрыярх РПЦ Кірыл падпісаў з кардыналам Міхалікам дакумент з заклікам да палякаў і рускіх прымірыцца, забыць былыя крыўды.

**Германія.** Вядучы ў Еўропе аўтаканцэрн Volkswagen за 4,5 мільярдаў еўра выкупіў асноўны пакет акцый і стаў поўным уладальнікам яшчэ і кампаніі спартыўных машын Porche.

**Таіланд.** Да 10 гадоў турмы пагражае сенатару за забойства па неасцярожнасці з пісталета былой жонкі, цяпер яго асабістага сакратара, калі парламент пазбавіць недатыкальнасці.

**Эстонія.** Па просьбе МЗС Швецыі і са згоды ўрада краіны Талін будзе прадстаўляць інтарэсы шведаў у візавых і іншых пытаннях у сваім пасольстве ў Мінску.

**Польшча.** Мастак з горада Жэшаў Януш Кароль за 5 гадоў зрабіў велізарную плошчай 40 квадратных метраў панараму бітвы паўстання Касцюшкі, яна трапіла ў Еўрапейскую галерэю.

**Расія.** На Новадзявочых могілках у Маскве знайшоў вечны спакой сусветнавядомы вучоны, акадэмік Сяргей Капіца, ён трапіў у Кнігу рэкордаў Гіннеса, як тэлевядучы.

**Самалі.** Лідар буйнейшай банды марскіх піратаў Мухамед Шыбін судом ЗША быў прызнаны вінаватым па 15 артыкулах і атрымаў 12 пажыццёвых тэрмінаў зняволення.

**Нарвегія.** Ноччу ў вясковы дом на поўначы краіны пры адсутнасці гаспадароў пранiклі 4 мядзведзі. Яны з'елі ўсе ласунекі, выпілі 100 банак піва, разламалі ложкі і адну сцяну хаты.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Магілёў.** Яшчэ адным айчынным аўтабанам стала пасля рэканструкцыі абноўленая магістраль М-4 на Мінск з сучасным чатырохпалосным дарожным пакрыццём.

**Мінск.** За апошніх 1,5 года, як прызнаў міністр архітэктуры і будаўніцтва РБ Анатоль Нічкасаў, з Беларусі выехалі на працу за граніцу 43 тысячы кваліфікаваных будаўнікоў.

**Асіповічы.** Мясцовы завод аўтамабільных агрэгатаў стаў падраздзяленнем новага холдынга "БелаўтаМАЗ" з яшчэ шасці айчынных заводаў галіны і ААТ "БудМАЗтрэст".

**Мінск.** З небыцця вярнуўся персанальны пенсіянер, экс-глава Нацбанка РБ Пётр Пракаповіч, якога прызначылі новым памочнікам прэзідэнта замест Сяргея Ткачова.

**Чэрвень.** На тэрыторыі раёна кампанія "Інтэрсервіс" купіла за 4,5 мільёна долараў завод па вытворчасці бітуму, у бюджэт Мінскай вобласці ад здзелкі паступіла 68,9 мільярдаў рублёў.

**Мінск.** У першым паўгоддзі ў Беларусі, па дадзеных Нацстата РБ, са стратамі працавалі 513 буйных прадпрыемстваў і арганізацый, альбо 6 % ад іх агульнай колькасці.

**Драгічын.** За суткі ў райцэнтры выпала найбольшая ў краіне колькасць ападкаў – 62 мм, альбо 82 % месячнай нормы, а ў Мінску з-за лівня правалілася частка аднаго з праспектаў.

**Горкі.** Услед за аўтастанцыяй раней за іншыя аб'екты будаўнікі здалі да "Дажынак-2012" у райцэнтры 3D кінатэатр "Крыніца" на 288 месц, ён першы ў раёнах Магілёўшчыны.

**Мінск.** Холдынг "Гарызонт" больш чым у 2 разы павялічыў аб'ёмы экспарту і пачаў выпуск тэлевізараў з сістэмамі выхаду ў Інтэрнет, прагляду відэа і 3-мернай карцінкі.

**Жлобін.** Праз 5 гадоў работніца хлебазавода Святлана Сямчэня зноў парадзіла двойню, што істотна дапамога яе сям'і выплаціць крэдыт за атрыманне новай 3-пакаёвай кватэры

**Калінкавічы.** Цудам выжыў і трапіў у бальніцу з пераломамі і траўмамі 9-гадовы хлопчык пасля падзення з 4-га паверха, ён быў у гасцях у сваёй бабулі і застаўся ў кватэры адзін.

**Жабінка.** На трасе М-1 на тэрыторыі раёна на пагранічнікі сумесна з міліцыяй затрымалі буйную партыю кантрабанды – жаночага абутку і сумак на суму амаль 1 мільярд рублёў.

**Мазыр.** У Нацпарку "Прыпяцкі" самым папулярным стала паляванне на дзікіх кабаноў (болей 1 млн. $ выручкі за год), адны расіяне адстрэльваюць да 60 дзікоў у суткі.

**Мінск.** На могілках вёскі Аронава Слабада ля сталіцы пахавалі вядомую кінаактрысу Ніну Разанцаву, яна памерла на 63-м годзе жыцця, сыграла каля 20 знакамітых роляў.

**Касцюковічы.** Пабудаваць медвыцвярэзнік паабяцаў новы глава раёна Уладзімір Кісялёў, ён 13 гадоў кіраваў тут Беларускім цэментным заводам, яго папярэднік раптоўна памёр.

# У Беларусі зноў павышана тарыфная стаўка першага разраду



■ Марына Носава, БелаПАН

**1 верасня тарыфная стаўка першага разраду ў Беларусі павышана з 210 тысяч да 225 тысяч рублёў (на 7%). Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 769 ад 20 жніўня.**

Тарыфная стаўка прымяняецца для разліку заработнай платы работнікаў бюджэтнай сферы. Гэта ўжо трэцяе сёлета павышэнне: раней стаўка павышалася 1 студзеня (да 200 тысяч рублёў) і 1 мая (да 210 тысяч).

Пастановай урада таксама ўстаноўлены карэкціруючыя каэфіцыенты да разлічаных па Адзінай тарыфнай сетцы работнікаў Рэспублікі Беларусь тарыфных ставак (акладаў) работнікаў бюджэтных арганізацый, якія тарыфікуюцца 1—27 разрадамі, у памерах 3,50—1,00.

Кіраўнік дзяржавы неаднаразова патрабаваў ад урада давесці да канца 2012 года сярэдні заробак у краіне да ўзроўню не менш чым 500 долараў. Пры гэтым Аляксандр Лукашэнка падкрэсліваў: павышэнне зарплат было эканамічна абгрунтаваным.

Аднак, як вынікае з аналітычнага даклада аб выкананні найважнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця, апублікаванага на гэтым тыдні Міністэрствам эканомікі, у першым паўгоддзі рост прадукцыйнасці працы ў Беларусі адставаў ад тэмпаў росту рэальнай зарплаты на 2,2%.

«Пастаянны рост рэальнай заработнай платы сёлета пры адносным захаванні ўзроўню прадукцыйнасці працы прывёў не толькі да паступовага скарачэння разрыву паміж іх узроўнямі, але і да парушэння важнай эканамічнай прапорцыі — перавышэння тэмпаў росту рэальнай заработнай платы над тэмпам росту прадукцыйнасці працы», — адзначаюць у Мінэканомікі.

Незалежныя аналітыкі неаднаразова заяўлялі аб неабгрунтаванасці росту зарплат і расцэньваюць чарговае павышэнне тарыфнай стаўкі як папулісцкую меру напярэдадні парламенцкіх выбараў.

Міжнародны валютны фонд у сваім заключэнні па выніках апошняга маніторынгу сітуацыі ў Беларусі адзначаў: «Імкненне да дасягнення высокіх паказчыкаў эканамічнага росту і заработнай платы можа выклікаць новы віток раскручвання інфляцыі і дэвальвацыі і стварыць пагрозу сярэднетэрміновай устойлівасці бюджэту і доўгу».

Паводле звестак Белстата, намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў бюджэтных арганізацыях Беларусі ў першым паўгоддзі склала 2 млн. 764,2 тыс. рублёў, у тым ліку ў чэрвені — 3 млн. 84,9 тыс. рублёў. У параўнанні з маем чэрвеньская зарплата павялічылася на 4,7% (на 138,4 тыс. рублёў). Рэальная зарплата ў першым паўгоддзі гэтага года павялічылася на 5,6% у параўнанні з такім жа леташнім перыядам.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец рэкамендаваў ва ўсіх раёнах Прыдзвіння па праграме "Вітагра" пачаць займацца вырошчваннем вінаграду, яблык, ягад, пасадзіць маладыя сады

**Наваполацк.** Амаль трэць кансалідаванага бюджэту Віцебскай вобласці склалі сёлета за 7 месяцаў паступленні ад дзейнасці ААТ "Нафтан" у памеры 1,390 трыльёна рублёў.

**Глыбокае.** Дзякуючы глыбачанцы Марыне Шкерманковай вобласць выканала задачу-мінімум па заваяванні адзінай алімпійскай медалі ў Лондане, там было 16 нашых атлетаў.

**Полацк.** Пры конкурсе 1,9 чалавекі на месца на бюджэтную форму навучання ў мясцовым дзяржуніверсітэце антырэкорд (0,2) паставілі замежныя мовы і спецыяльнасць "фізіка".

**Чашнікі.** У цэнтры горада з'явілася новая камфартабельная міні-гасцініца "Уют", у ёй 7 нумароў для пражывання аднаго-двух чалавек з усімі зручнасцямі, выхадам у Інтэрнэт.

**Віцебск.** Найбольш у краіне, адразу 61 сем'я беспрацоўных перасялілася сёлета з гарадоў вобласці ў студзені-ліпені на новае месца жыхарства і работы ў сельскую мясцовасць.

**Наваполацк.** Аўтамабіль ГАЗ-53, які вёз з "Нафтана" ў Жлобін гідраўлічнае масла, перавярнуўся на дарозе на Віцебск, спецыялістам МНС прыйшлося масла змываць з трасы.

**Лепель.** Турыстычным брэндам раёна, дзе дзейнічаюць 18 аграсядзіб, вырашылі зрабіць Цмока, міфічнага родзіча Дракона, які па легендзе аблюбаваў мясцовае Лепельскае возера.

**Глыбокае.** Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры на працягу 2-х дзён працавалі 25 панадворкаў гарадоў і раёнаў вобласці "Віцебшчына хлебасольная".

**Паставы.** Аддзяленне хуткай медпамогі райбальніцы атрымала другі па ліку сёлета новы спецаўтамабіль "Газель" і поўнасцю абнавіла свой аўтапарк з трох машын.

**Полацк.** На тэрыторыі раёна прайшоў абласны этап нацыянальнага сямейнага праекта "Уладар сяла", упершыню ў яго ўключылі конкурс "Дзедава рыбалка" з дапамогай вуды.

**Талачын.** Вечарам паблізу райцэнтра 27-гадовы мінчанін не ўступіў дарогу іншамарцы з Расіі, у выніку сутыкнення загінулі на месцы ДТЗ яго равесніца жонка і 17-гадовая сястра.

**Мёры.** З удзелам артыстаў з Латвіі, Віцебска і народных майстроў раёна і суседняй Браслаўшчыны ў мястэчку Перабродзе асвяцілі садавіну на свяце Яблычнага Спасу.

**Гарадок.** У райбальніцы памёр пасля атрыманых нажавых раненняў 77-гадовы пенсіянер з вёскі Кабішча, яго на падпітку забіў пасля спрэчкі непрацуючы 24-гадовы вясковец.

**Орша.** Падчас адпачынку ў Крыме трапіў у бальніцу 35-гадовы гараджанін з двума сваімі дзецьмі 10 і 13 гадоў. Ён на машыне урэзаўся ў прыдарожнае дрэва ля Сімферопаля.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Духоўнасць пачынаецца са слова

*Марыя Януш,*
*м. Крулеўшчына.*

Духоўнасць пачынаецца са слова:
Яно ў песнях-казках ад матуль,
Сілкуецца з крыніцы роднай мовы,
Каб повязь спадчыны змаглі адчуць.
Жыве яно з выданнямі Скарыны,
Нясе зарад паўтысячы гадоў,
Каб прыцягненне да сваёй Айчыны
Давала моцы пакаленням зноў.
Духоўнасць пачынаецца са слова,
Са сказаў на старонках буквара,
Ад грамадзянскай існасці высновы
І песень неўміручых Гусляра,
З гармоніяй радкоў «Вянка» Максіма
І Коласавых «Казак» ад жыцця,
Бо з мудрым словам маем мы магчымасць
Знаходзіць сэнс штодзённага быцця.
Духоўнасць пачынаецца са слова
Святых пісанняў з Біблії святой,
Скіруюць шлях заступнікі-анёлы,
Заўжды закрыюць ад бяды рукой.
Асвеціць слова ўсё жыццё нанова,
Атуліць ласкай Божага святла,
Было спачатку сказана Ім Слова,
Каб дабрыня ў сэрцах прарасла.

# Такога свята Глыбокае яшчэ не бачыла!




Урачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства і друку ў Глыбокім, 2 верасня 2012 г. Свята прывітальным словам адкрыў старшыня аргкамітэту намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік (трэці злева). Прамаўляе А.Косінец, старшыня Віцебскага АВК (у цэнтры каля мікрафона). Далей, направа, выступоўцы: вікарый Мінскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы Веніямін, які зачытаў віншаванні ад мітрапаліта Філарэта; А. Морхат, старшыня Глыбоцкага РВК; І.Бамбіза, намеснік дзяржсакратара Пастаяннага Камітэта Саюзнай Дзяржавы.

■ Уладзімір Скрабатун

**Даўно такога масавага і вялікага свята ў Глыбокім не было... Даўно? Натуральна, 78 гадоў таму, калі ў кастрычніку 1934 г., за «польскім часам», у Глыбокім адбыліся «Дажынкі» – даўно! Гэта было шматлюднае свята, калі горад быў запоўнены людзьмі «пад завязку». Але тады была іншая дзяржава, іншая палітыка, іншая культура, ды й Глыбокаму на тым часе падпарадкоўваліся: і Дзісна, і Язна, і Докшыцы, і Шаркоўшчына, і Параф'янава...**

І вось, ізноў у Глыбокае вярнулася вялікае і шматлюднае свята, гэта – Дзень беларускага пісьменства і друку, свята агульнанацыянальнага значэння. Прыехалі госці не толькі з усяе Беларусі, але й госці з цэлай Еўропы, прадстаўнікі дыпламатычных місій замежных краін, якія размешчаныя ў Мінску. Былі заўважныя і госці з рысамі твараў, характэрных для азіяцкіх краінаў.

Самае галоўнае, што жыхары і шматлікія госці нашага Глыбокага ў дзень свята ўбачылі прыгожы горад еўрапейскага кшталту. Гэта была праца і высілкі тысяч і тысяч людзей ад губернатара да звычайнага дворніка ЖКГ, калі працавалі дзеля свята не адзін дзясятак арганізатараў, скульптараў, сцэнарыстаў... А колькі гэта яшчэ каштавала ўсім нерваў і бяссонных начэй! Можа і не ўсё ўдалося здзейсніць з запланаванага, але з большага атрымалася і не сорамна было за наш горад.

Дзень беларускага пісьменства праводзіцца штогод у першую нядзелю верасня. Канцэпцыя свята прадугледжвае паказ адзінства беларускага друкаванага слова з гісторыяй і культурай беларускага народа, адлюстраванне гістарычнага шляху пісьменства і друку ў Беларусі.

Традыцыйна Дзень беларускага пісьменства праходзіць у гарадах, якія з'яўляюцца гістарычнымі цэнтрамі культуры, навукі, літаратуры і кнігадрукавання.

У рамках свята ўдзельнікі і госці мелі магчымасць азнаёміцца з новымі кніжнымі выданнямі, сустрэцца з беларускімі і замежнымі літаратарамі, журналістамі, выдаўцамі, паслухаць выступленні паэтаў і пісьменнікаў, творчых калектываў і выканаўцаў. Таксама па традыцыі на Дзень беларускага пісьменства прайшлі: ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу на лепшыя літаратурныя творы года, навукова-практычная канферэнцыя і шэраг іншых мерапрыемстваў.

Эстафету свята Дня беларускага пісьменства і друку на наступны год пераняў у Глыбокага старажытны горад на Дняпры – Быхаў (Магілёўская вобл.)

***З нагоды свята Глыбокае атрымала шмат набыткаў, якія застануцца ў нашым горадзе назаўсёды. Да гэтай тэмы мы яшчэ вернемся ў наступных публікацыях.***



Адмыслова для гасцей з Францыі (справа) спяваюць самадзейныя артысты з Віцебска.



У Глыбокае прыехала шмат творчых людзей. Свой партрэт у мастака пад час свята можна было заказаць наўпрост на гарадской вуліцы.



Пад час свята Дня беларускага пісьменства і друку вуліцы горада запаланілі прадстаўнікі розных нацыянальных культур, былі заўважныя: польскі панадворак, армянскі панадворак, украінскі панадворак, рускі панадворак, яўрэйскі панадворак і інш. На здымку: літоўскі панадворак кінуўся ў пляс.



Кліменцій Кожан,
м. Германавічы.

# Памяці Янкі Саламевіча

**По радыё "Свабода" пачуў сумную вестку: 31 ліпеня 2012 года на 74-м годзе жыцця памёр Янка (Іван Уладзіміравіч) Саламевіч, пісьменнік, літаратуразнаўца, крытык, бібліёграф, фальклярыст, энцыклапедыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Ён быў маім аднакурснікам па філалагічным факультэце БДУ.**

Нарадзіўся Янка Саламевіч 29 кастрычніка 1938 года ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці.

У 1960 годзе скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Працоўны шлях пачаў у Дзяржаўнай (цяпер Нацыянальнай) бібліятэцы Беларусі на пасадзе карэктара і рэдактара выдавецкага аддзела (1960-1962). У 1962-1964 гадах працаваў рэдактарам у выдавецтве "Вышэйшая школа". У 1964-1967 гадах вучыўся ў аспірантуры пры кафедры беларускай літаратуры БДУ. У 1971 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, напісаную пад кіраўніцтвам прафесара Міхася Ларчанкі і пры кансультацыйнай дапамозе свайго земляка прафесара Алега Лойкі. Тэма яго дысертацыі "Міхал Федароўскі – фальклярыст". У 1972 годзе выйшла пад такой жа назвай манаграфія, на якую з'явілася даволі многа станоўчых рэцэнзій у беларускім і польскім друку. Да нашага часу яна з'яўляецца найбольш поўнай крыніцай звестак пра Міхала Федароўскага ў Беларусі і Польшчы.

Пасля заканчэння аспірантуры Янка Саламевіч 36 гадоў адпрацаваў у "Беларускай Энцыклапедыі". Прыйшоў сюды ў 1968 годзе на пасаду старэйшага навуковага рэдактара. Пасля працаваў загадчыкам навуковай рэдакцыі народнай асветы і беларускіх слоўнікаў, вядучым рэдактарам, потым вядучым рэдактарам рэдакцыі літаратуры, мовы, фальклору і этнаграфіі.

Я. Саламевіч прымаў актыўны ўдзел у стварэнні ўсіх асноўных беларускіх энцыклапедый – 12-томнай "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" (1969-1975), 5-томнай "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" (1984-1987), 18-томнай "Беларускай Энцыклапедыі" (1996-2004). Для гэтых энцыклапедый ён напісаў тысячы артыкулаў. Таксама ўдзельнічаў у стварэнні і іншых энцыклапедычных выданняў. Для энцыклапедычнага даведніка "Янка Купала" (1986) напісаў 165 артыкулаў, для энцыклапедыі "Беларускі фальклор" (2005-2006) у 2-х тамах – 122 артыкулы. У 1976 годзе Янку Саламевічу і іншым стваральнікам "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" прысудзілі Дзяржаўную прэмію БССР у галіне навукі.

Янка Саламевіч удзельнічаў у стварэнні многіх арыгінальных кніг – "Хрэстаматыі беларускай дзіцячай літаратуры" (1966, разам з М. Пятровічам і А. Налівайкам), кнігі ўспамінаў, артыкулаў і дакументаў "Максім Гарэцкі" (1984, разам з А.Лісам), выбраных твораў Гальяша Леўчыка "Доля і хлеб" (1980, разам з Н. Ляшковіч), М. Арла "Лірнік" (1991), Я.Чачота "Свіцязь" (1999), анталогіі "Беларуская Балада" (1978) і "П'есы XIX – пачатку XX ст." (1998), зборніка "Беларускія загадкі" (1982, 1989), настольных календароў "Кола дзён" (1987, 1988) і іншых.

Янка Саламевіч многа працаваў у архівах і бібліятэках, адшукаў там невядомыя матэрыялы аб творчасці Ф.Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, Г. Леўчыка, К. Лейкі, З.Верас, Ф. Шантыра, А. Зязюлі, У. Дубоўкі, Р.



Зямкевіча і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Янку Саламевіча ведаюць як выдатнага фалькларыста. Яшчэ ў студэнцкія гады ён апублікаваў шэраг артыкулаў у рэспубліканскіх газетах па пытаннях беларускага фальклору. Шмат яго артыкулаў па фальклору змешчана ў асобных выданнях у энцыклапедыі "Беларускі Фальклор", у календарах "Родны край" (1993-2003).

У 1964 годзе выйшаў першы ў Беларусі даведнік "Беларускі фальклор (1926-1953)", падрыхтаваны Янкам Саламевічам да друку.

У 1983 годзе выйшла вельмі важная кніга Я.Саламевіча "Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI-XXстст)" на 4000 адзінак. Расія ўжо мела 4-томны "Словарь псевдонимов русских писателей" І. Масанава (1956-1960), Украіна – "Словнік українських псевдонімів та кріптонімів (XVI-XXстст)" А. Дэя (1969). У Беларусі да Янкі Саламевіча такога слоўніка не было.

За ўсё жыццё Янка Саламевіч сабраў і расшыфраваў звыш 20000 псеўданімаў і крыптанімаў. Ён падрыхтаваў да выдання 2-томны "Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў", але ў дзяржавы не знайшлося грошай, каб выдаць гэтую патрэбную кнігу.

У 1979-1988 гадах Янка Саламевіч вёў тэлечасопіс "Роднае слова", які вызначаўся сваім глыбокім зместам. У 1987-1997 гадах вучоны чытаў на філалагічным факультэце БДУ курс лекцый па беларускім фальклоры.

Зямляк Янкі Саламевіча Сяргей Чыгрын назваў яго "вялікім беларускім энцыклапедыстам". Яны шмат гадоў сябравалі. Сяргей Чыгрын "не мог наталіцца яго ведамі, аповедамі пра нашу Беларусь, яе гісторыю, літаратуру, выданні і людзей". З Янкам Саламевічам можна было гутарыць бясконца. З ім было цікава на розных мерапрыемствах, фэстах, сустрэчах, вяселлях. Па словах Сяргея Чыгрына, Янка Саламевіч мог так развесяліць грамаду, што людзі проста "рвалі" жываты ад смеху, бо выдатна ведаў беларускі гумар, фальклор. Ён умеў прыкмеціць і запомніць нейкае добрае слоўца, выраз, прымаўку. А пра сваіх землякоў з Вялікай Кракоткі мог распавядаць бясконца.

Любоў да роднай мовы, да ўсяго беларускага, прывяла Янку Саламевіча на філалагічны факультэт БДУ. Тут, на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры, вучыліся яго дачка Вераніка і сын Аляксандр. Закончылі філфак таксама ўнук Павел і ўнучка Каця.

Доктар філалагічных навук прафесар БДУ Вячаслаў Рагойша ў артыкуле "Абраннік роднага слова" ("Літаратура і мастацтва", 10 жніўня 2012 г. №32) напісаў: "Шкада, вельмі шкада, што Янкі Саламевіча не стала. Але годна працягваць справу бацькі і дзеда ёсць каму. Пра гэта мудра і своечасова паклапаціўся ён сам. Крыніца роднага слова не абмялее".

Памяць пра выдатнага вучонага, літаратара, фалькларыста, энцыклапедыста Івана Саламевіча назаўсёды захаваецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў.

Анатоль Сідарэвіч

# Падарунак да Дня пісьменства,

## або Вяртанне Отана Гедэмана

**Ён сабраў унікальны поўны матэрыял пра гісторыю Глыбокага, Друі, Лужкоў, Паазер'я.**

Отан Гедэман быў сынам немца і полькі і вялікім патрыётам Крэсаў Усходніх.

Краязнаўчыя нататкі Гедэмана пра Паазер'е і Белавежу — дагэтуль каштоўная крыніца ведаў.

Адзін журналіст, пасміхаючыся, нядаўна сказаў мне, што пэўныя глыбоцкія чыноўнікі перад Днём беларускага пісьменства перакваліфікаваліся ў гісторыкаў і занятыя цяпер стварэннем опусаў.

Што ж, дай Бог. Толькі б не пайшлі яны па шляху сваіх калег — ганцавіцкіх чыноўнікаў, якія летась да Дня пісьменства выпусцілі кніжку аб праваслаўных храмах раёна, а аўтарства яе прыпісалі аж двум аддзелам райвыканкама. З другога боку, я больш чым упэўнены, што чыноўнікі, пішучы пра мінуўшчыну Глыбокага, не ўтруць нос Отану Гедэману. Наадварот, будуць спісваць у яго.

Отан Гедэман?

Быў у міжваенны час такі даследчык. Генадзь Каханоўскі назваў яго (у другім томе Энцыклапедыі гісторыі Беларусі) беларускім гісторыкам, краязнаўцам, прыродазнаўцам і педагогам.

Думаецца, гэта памылка.

Otton Hedemann, сын дацкага немца, інжынера-меліяратара Магнуса Гедэмана, які прыехаў на заробкі ў Расійскую імперыю, і тутэйшай полькі Ядвігі Андрэеўскай (не Анджэеўскай!), народжаны ў Рэчыцкім павеце, Отан Гедэман да канца свайго жыцця пачуваўся палякам і быў польскім патрыётам-рамантыкам.

Трапіўшы ў 1935 годзе першы раз у Глыбокае, гісторык прысутнічаў там на жалобнай імшы з прычыны смерці маршала Юзафа Пілсудскага — стваральніка і магільшчыка Польскай Рэспублікі.

У беларускім горадзе Глыбокае Гедэман перажывае прыліў патрыятычных пачуццяў: «Бог і Айчына!». За чатыры гады да верасня 1939 года ён, як відаць, не прадчуваў канца Польскай Рэспублікі — хворай на шавінізм, ксенафобію, пыху, разадранай унутранымі супярэчнасцямі, эканамічна і тэхнічна адсталай.

Зрэшты, О. Гедэман тут не выключэнне. Яго выключнасць у тым, што ён закахаўся ў той край, у якім жыў, — у гістарычную Віленшчыну (дакладней, ва ўсходнюю частку яе), — вывучаў яго мінуўшчыну і пісаў пра яго кнігі. Няхай сабе ён глядзеў на край праз польскую прызму, для нас маюць каштоўнасць не ідэалагемы, не забабоны, а тыя аб'ектыўныя факты, звесткі, якія здабыў і апублікаваў даследчык.



Можна канстатаваць факт: сёлета творчая спадчына О. Гедэмана ў значнай меры вярнулася і — больш за тое — збеларушчылася, бо чатыры ягоныя кнігі выйшлі на нашай мове.

Сем гадоў таму я пісаў пра тое, што Паставы — адзін з нямногіх раённых гарадоў Беларусі, у якім ёсць некаzённы культурны асяродак і ў якім ствараюцца духоўныя каштоўнасці. Пісаў пра тамтэйшых краязнаўцаў і кнігі, якія яны выпусцілі. Пісаў і аб краязнаўчым часопісе «Нашы карані». Часопіс вось ужо каторы год не выходзіць. Прычынай таму не гэтак брак сродкаў, як палітычныя абставіны. У нас у краіне лаяльнасць да рэжыму выражаецца ў адмове ад самадзейнасці, г. зн. ад дзейнасці, не санкцыянаванай уладамі. А паколькі цяперашняя ўлада і беларуская культура — рэчы цяжкасумяшчальныя, дык некаторыя аўтары «Нашых каранёў» змушаныя былі спыніць супрацоўніцтва з часопісам толькі таму, што яго выданне не санкцыянавана ўладамі. Аднак гэта не азначае, што праца пастаўскіх краязнаўцаў спыняецца.

На гэты раз краязнаўцы Міхал Гіль і Уладзіслаў Ляскоўскі вырашылі паказаць дасягненні міжваеннага краязнаўства, якое, што ні кажы, мела «пад палякамі» пэўныя і не абы-якія дасягненні. І яны звярнуліся да спадчыны О. Гедэмана.

Сёлета М. Гіль і У. Ляскоўскі пераклалі і выдалі ў бібліятэцы часопіса «Нашы карані» чатыры кніжкі польскага краязнаўца і гісторыка: гістарычны нарыс «Глыбокае», «Друя — магдэбурскі горад», «Даўнія пушчы і воды» (гаворка ў даследаванні не толькі аб прыродных багаццях усходняе часткі гістарычнай Віленшчыны, але і пра такія заняткі і промыслы, як выраб паташу, клёпак, бэлек і мачтаў (вядома ж, і на экспарт), паляванне, бортніцтва і рыбалоўства), а таксама пра «Валерыянаўскія школы айцоў піяраў лужэцкіх» — галоўным чынам пра школу ў Лужках (націск на першым складзе) былога Дзісенскага павета.

Нельга сказаць, што ўсе чатыры кніжкі О. Гедэмана ў перакладзе на беларускую мову атрымаліся аднолькава якаснымі. Міхалу Гілю (і я казаў яму пра гэта), перш чым аддаць у друк кніжку аб Друі, трэба было паказаць яе гісторыку, бо нельга называць засяданцелямі тых, каго ў нашых магдэбурскіх гарадах называлі лаўнікамі. Ёсць у перакладзе і іншыя тэрміналагічныя недакладнасці.

Не пашкодзіла б паказаць пераклад і добраму філолагу, каб той «пахадзіў» як стыльрэдактар. Добрая рэдактура не пашкодзіла б і кнізе пра лужэцкіх піяраў.

І ўсё ж не менш, а больш важна адзначыць тое, што кніжкі О. Гедэмана ў перакладзе на беларускую выйшлі ў год, калі Дзень беларускага пісьменства будзе адзначацца ў Глыбокім — у горадзе, гісторыю якога даследаваў польскі краязнаўца.

Да перакладу кнігі «Глыбокае: гістарычны нарыс» цяжка прад'явіць нейкія істотныя прэтэнзіі. Сама ж кніжка і праз 77 год пасля яе першапублікацыі застаецца найбольш каштоўным даследаваннем гісторыі Глыбокага. Упэўнены: глыбоцкім чыноўнікам, якія вырашылі перакваліфікавацца ў гісторыкаў, абысці і аб'ехаць гэтую працу О. Гедэмана не ўдасца.

Хіба што яны будуць пісаць пра савецкае Глыбокае… Тое самае можна загадзя сказаць і аб браслаўскіх чыноўніках, калі яны таксама надумаюцца перакваліфікавацца ў гісторыкаў ды пісаць аб Друі.

Застаецца пашкадаваць, што гістарычны нарыс Отана Гедэмана «Глыбокае» ўбачыў свет не ў друкарні з якасным абсталяваннем, а выйшаў самвыдатам накладам усяго 200 асобнікаў.

Выдадзеная на высокім паліграфічным узроўні, гэтая кніга — сама па сабе добры падарунак да Дня пісьменства — зрабіла б гонар яе друкарам. Але такія нашы культурна-палітычныя рэаліі…

**Гедэман О. Глыбокае. Гістарычны нарыс** / пераклад з пол. М. Гіля. — Глыбокае; Паставы, 2012. — 60 с. (Бібліятэка часопіса «Нашы карані»)

**Гедэман О. Друя — магдэбурскі горад** / пераклад з пол. М. Гіля. — Паставы, 2012. — 104 с. (Бібліятэка часопіса «Нашы карані»)

**Гедэман О. Даўнія пушчы і воды** / пераклад з пол. М. Гіля. — Паставы, 2012. — 96 с. (Бібліятэка часопіса «Нашы карані»)

**Гедэман О. Валерыянаўскія школы** айцоў піяраў лужэцкіх / пераклад з пол. У. Ляскоўскага. — Паставы, 2012. — 92 с. (Бібліятэка часопіса «Нашы карані»).

# Хадзілі на рыбалку з сеткамі як на працу

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Беларусь нездарма клічуць Сінявокай. Досыць проста зірнуць на карту, каб зразумець – гэта край шматлікіх, найпрыгажэйшых рэк і азёр. Не выключэнне Глыбоцкі і Пастаўскі раёны. З такой прыроднай спадчынай умовы для культывавання рыбнай лоўлі, як здаровага віду адпачынку – ідэальныя, для развіцця турызму – выдатныя. Аднак, патэнцыял нашых вадаёмаў у поўным аб'ёме не выкарыстоўваецца, да таго ж пасля развалу вялікай краіны, браканьеры, адчуўшы свабоду, сталі бязлітасна нішчыць усё жывое ў вадаёмах і лясах, а агульнае бескультур'е набыло велізарны маштаб. У рукатворныя звалкі пачалі ператварацца месцы масавага адпачынку насельніцтва.

Аднак, дзяржава не стала сыходзіць ад узніклай праблемы і неадкладна былі прыняты цвёрдыя меры па навядзенні парадку ў прыродаахоўнай сферы. Толькі за апошнія гады дзясяткі тысяч браканьераў і парушальнікаў парадку панеслі суровыя пакаранні, за прычынены прыродзе урон, з парушальнікаў спагнаныя мільярды рублёў.

Так, жыхар в. Ураджайнае Глыбоцкага раёна, грамадзянін Г. 29 жніўня 2012 года асуджаны Глыбоцкім раённым судом да 1 году пазбаўлення волі ўмоўна за незаконную здабычу рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства на вадасховішчы Іванаўшчына, з пакрыццём нанесенага прыродзе ўрону ў памеры больш 19 млн. рублёў.

Бацька і сын, Катовіч Станіслаў Іосіфавіч жыхар в. Доўгае і Катовіч Андрэй Станіслававіч жыхар в. Груздава Пастаўскага раёна хадзілі на рыбалку з сеткамі на возера Царкоўнае Глыбоцкага раёна як на працу, вырашыўшы, што могуць лавіць рыбку кожны дзень беспакарана, але работнікі інспекцыі думалі інакш і спынілі промысел браканьераў, а раённы суд пакараў парушальнікаў за браканьерства штрафам у суме 1 млн. рублёў кожнага, з пакрыццём прычыненай шкоды ў памеры 400 тысяч рублёў.

Яшчэ адна праблема – экалагічная. Шматлікія вадаёмы, прыбярэжная паласа і лясныя масівы, захламлены. Прычына банальная – чалавечае бескультур'е. Назіраецца небывалая цікавасць народа да рыбалкі, колькасць рыбаловаў павялічылася ў дзясяткі разоў. Зрэшты, не рыбаловаў, а людзей з вудамі, якія з сапраўднымі рыбакамі «побач не стаялі». Шматлікіх з так званых «рыбакоў» можна смела прылічыць да ліку звычайных п'яніц. Яны і лавіць рыбу толкам не ўмеюць, а прыбіраць за сабой – пагатоў. Для прыкладу наведайце возера Акунёўскае, Вялікая Пліса, ды і не толькі, і пераканаецеся, колькі там рознага хламу пакінута пасля такіх рыбакоў, трэба ні адзін трактарны прычэп, каб вывезці смецце, ні адзін арандатар не паспее яго прыбраць.

Пасля грыбнікоў застаюцца цэлыя кучы смецця, кожны яр паблізу вёсак завалены побытавым смеццем.

Мы яшчэ не адвыклі ківаць на іншых, лічачы, што хтосьці, першым чынам дзяржаўныя органы, абавязаны вырашаць праблемы экалогіі, клапаціцца пра захаванне прыродных багаццяў. Пры гэтым не задумваемся над тым, якія страты прыродзе наносім непасрэдна мы самі, кіруючыся прыказкай «пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца». Так, гэта наша праблема, але дзяржава ад яе не адхрышчваецца, а зусім наадварот, вырашае яе ўсімі сіламі. А свой артыкул пра захаванне прыроды хацелася б скончыць словамі з песні Алы Пугачовай, «море счастья обмелело, и река любви замёрзла, но осталось озеро надежды», надзеі, што ўсё ў нас будзе добра і мы больш асцярожна будзем ставіцца да прыроды, да сваёй зямлі.

Тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі 8 (02156) 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Беларус выйграў у покер мільён еўра



© Neil Stoddart

Мікалай Пабаль перамог у Еўрапейскім покерным турніры ў Барселоне.

**БелаПАН**

Чэмпіёнам Еўрапейскага покернага турніру (EPT) у Барселоне стаў беларус Мікалай Пабаль.

Ён пераадолеў рэкорднае для турніру поле ў 1.082 гульцы, паведамляе сайт championat.com. Самым складаным было супрацьстаянне двум фінам — Ілары Сахаміесу і Джоні Юкімайнену, з якімі ён некалькі гадзін правёў за гульнёй 3-max.

У барацьбе за галоўны прыз выйгрыш беларуса склаў 1.007.550 еўра.

Мікалай Пабаль — студэнт Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, дзе ён вучыцца па спецыяльнасці «Міжнародная эканоміка».

# За праезд у мінскім метро можна будзе расплаціцца банкаўскай картай

**ААТ «БПС-Ашчадбанк» рэалізуе праект па аснашчэнні станцый Мінскага метрапалітэна тэрміналамі для аплаты праезду з выкарыстаннем банкаўскіх карт.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе «БПС-Ашчадбанка», з 5 верасня карыстальнікам метрапалітэна будзе прапанавана сістэма разлікаў за паездкі з дапамогай карткі. Цяпер аплаціць праезд у метро будзе магчымым без выкарыстання наяўных грошай. Новая паслуга на першым этапе рэалізавана для пасажыраў самай загружанай станцыі — «Кастрычніцкая». Пазней будуць падключаны астатнія станцыі.

Да разлікаў прымаюцца карты разліковых сістэм, якія шырока выкарыстоўваюцца ў Беларусі, пачынаючы ад нацыянальнай сістэмы «БелКарт» і заканчваючы міжнароднымі Visa і MasterCard. Пры гэтым банкаўская камісія па гэтых аперацыях не збіраецца.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

Упраўленне КДБ па Віцебскай вобласці:

# Сітуацыя са злачыннасцю ў памежжы пагаршаецца

«На сённяшні дзень адзначаецца пагаршэнне крымінагеннага становішча ў памежжы. Пры гэтым ва ўмовах эканоміі бюджэтных сродкаў і пераразмеркавання сіл беларускія праваахоўныя структуры больш пільную ўвагу надаюць беларуска-латвійскаму напрамку, з улікам дружалюбнай палітыкі, якая паслядоўна праводзіцца суседняй дзяржавай», — гаворыцца ў паведамленні прэс-групы ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Віцебскай вобласці.

Упраўленне КДБ фактычна дублюе раней распаўсюджанае Дзяржаўным пагранічным камітэтам паведамленне аб тым, што 31 жніўня УКДБ па Віцебскай вобласці сумесна з работнікамі Віцебскай мытні і пагранічнікамі спынены канал кантрабанды буйных партый тытунёвых вырабаў. У пункце пропуску «Бігосава-1» у двух паўвагонах з вугалем грузавога саставу, які рухаўся ў Латвію, было выяўлена і канфіскавана 140 каробак тытунёвых вырабаў з беларускімі акцызнымі маркамі на 217 млн. рублёў. Па факце правапарушэння праводзіцца праверка і ўстанаўліваюцца асобы, якія маюць дачыненне да супрацьпраўнай дзейнасці.

Гэта не першы выпадак, калі зламыснікі спрабуюць пераправіць цераз беларуска-латвійскую мяжу буйныя партыі тытунёвых вырабаў. Так, сёлета супрацоўнікі УКДБ па Віцебскай вобласці сумесна з пагранічнікамі ў Верхнядзвінскім раёне блізу дзяржаўнай мяжы затрымалі непрацоўнага жыхара Віцебскай вобласці, які спрабаваў незаконна перавезці ў Латвію 120 каробак тытунёвых вырабаў з беларускімі акцызнымі маркамі для рэалізацыі на тэрыторыі прыбалтыйскіх краін. Тавар коштам 300 млн. рублёў быў канфіскаваны.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# У Беларусі можа быць зменены прадметны рад цэнтралізаванага тэставання

**У Беларусі можа быць зменены прадметны рад цэнтралізаванага тэставання.**

Як паведаміла БелаПАН прэс-сакратар Міністэрства адукацыі Юлія Ваніна, пакуль абмяркоўваюцца некалькі варыянтаў аптымізацыі прадметнага раду ЦТ. Ёсць прапановы, напрыклад, аб'яднаць гісторыю і грамадазнаўства, магчыма, убраць некаторыя прадметы, не запатрабаваныя для паступлення ў ВНУ і ССНУ.

«Прадугледжваецца яшчэ больш наблізіць прадметны рад ЦТ да патрабаванняў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі», — зазначыла Ваніна.

Паводле яе слоў, прапановы па змяненні прадметнага раду ЦТ будуць абмяркоўвацца на ўзроўні спецыялістаў — рэктараў ВНУ, настаўнікаў і метадыстаў, а таксама грамадскасці.

Хутчэй за ўсё, новаўвядзенне будзе ўнесена ў праект новых правілаў прыёму ў ВНУ, які да лістапада павінен быць прадстаўлены на разгляд прэзідэнта.

Нагадаем, у адпаведнасці з праектам новых правілаў прыёму ў ВНУ у Беларусі плануецца адмяніць большасць ільготаў пры паступленні. Прапаноўваецца адмяніць раздзельны конкурс для выпускнікоў сельскіх і гарадскіх устаноў адукацыі. Льготу па залічэнні без уступных іспытаў абітурыентаў, якія заваявалі прызавыя месцы на міжнародных і рэспубліканскіх алімпіядах, іншых спаборніцтвах, прапануецца захаваць для тых, хто паступае на профільныя спецыяльнасці. Плануецца ўвесці норму, згодна з якой на завочную форму навучання ў ВНУ змогуць паступаць толькі працаўладкаваныя грамадзяне.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН*

# Нацбанк уводзіць у абарачэнне памятныя манеты «Максім Танк. 100 гадоў»

**Нацыянальны банк Беларусі 29 жніўня ўвёў у абарачэнне памятныя манеты «Максім Танк. 100 гадоў»: сярэбраную — наміналам 10 рублёў, пробай сплаву 925, масай 16,81 г, дыяметрам 37 мм; медна-нікелевую — наміналам 1 рубель, масай 19,50 г, дыяметрам 37 мм.**

Як паведамляе ўпраўленне інфармацыі Нацбанка, манеты маюць форму круга, з вонкавага і адваротнага бакоў — выступае кант па акружнасці. Бакавая паверхня манет з насечкай.

Аверс: уверсе — рэльефная выява дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь; у цэнтры — стылізаваны малюнак пейзажу: дрэва, сенажаць, жураўлі; надпісы: уверсе па крузе — «Рэспубліка Беларусь», унізе — намінал: «10 рублёў» (на сярэбранай) і «1 рубель» (на медна-нікелевай); справа — год чаканкі: «2012»; злева (на сярэбранай манеце) — проба сплаву.

Рэверс: справа — рэльефная выява класіка беларускай літаратуры Максіма Танка, які сядзіць за сталом; злева — стылізаваны малюнак беларускага пейзажу: сенажаць, возера і птушкі ў небе. Унізе ў два радкі надпіс: «Максім Танк, 1912—1995».

Манеты выраблены на ЗАТ «Літоўскі манетны двор» у Вільнюсе. Наклад сярэбранай і медна-нікелевай манет — па 2.000 штук.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

